На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 38 (620)

Серада, 3 сакавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



Скандал

Не падабаецца актыўнасць В. Ганчара ўладам...

Машына, з якой выцягнулі В. Ганчара, разбіўшы шкло пярэдніх дзвярэй

## Віктар Ганчар асуджаны на дзесяць сутак...

1 сакавіка прыкладна ў 13.30 старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар быў затрыманы ў Мінску супрацоўнікамі міліцыі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры "Хартыі'97", Ганчар знаходзіўся ў сваёй машыне BMW, прыпаркаванай на вуліцы Кісялёва, калі да яго падыйшлі трое супрацоўнікаў міліцыі і папрасілі прайсці з імі. Кіраўнік камісіі адмовіўся выйсці з машыны. Тады пад'ехалі міліцэйскія аўтамабілі і заблакіравалі BMW Ганчара, а потым яго сілай выцягнулі з машыны, разбіўшы пры гэтым бакавое шкло. Паводле звестак з "Хартыі'97", старшыню ЦВК пасадзілі ў міліцэйскую "Волгу" і павезлі ў суд. Цяпер Віктару Ганчару давядзецца 10 сутак правесці за кратамі, хаця абавязкі старшыні камісіі ніхто з яго не складваў.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## Прад'яўлена абвінавачанне 22-гадоваму кіроўцу, з-за якога загінулі ў аўтакатастрофе віцэ-спікер Савета рэспублікі Тамара Дудко і яе зяць

Следчы аддзел УУС Мінскага аблвыканкама прад'явіў абвінавачанне 22-гадоваму Дзмітрыю Кручанку. 2 студзеня 1999 года, кіруючы аўтамашынай "Фольксваген-Пасат" у стане алкагольнага ап'янення сярэдняй ступені, на дарозе Мінск—Паперня—Мядзель ён сутыкнуўся з аўтамабілем "Вольва". У выніку катастрофы два пасажыры "Вольва" — намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Тамара Дудко і яе зяць Валерый Нялюбаў — ад атрыманых цяжкіх раненняў памёрлі. Сын Т.Дудко, які сядзеў за рулём аўтамашыны, і яе дачка, каторая знаходзілася ў салоне, атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Кіроўца "Фольксвагена" з месца здарэння ўцёк.

Д.Кручанку прад'яўлена абвінавачанне па артыкулах 206, частка 3 (парушэнне правілаў дарожнага руху, якое пацягнула гібель людзей) і 127, частка 2 (неаказанне дапамогі пацярпеўшаму) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Сяргей МАВАЛІН, БелаПАН.**

## На мінулым тыдні органы Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў выявілі 467 парушэнняў заканадаўства, па якіх з суб'ектаў гаспадарання будзе спагнана 224,5 мільярда рублёў

З 22 па 26 лютага органамі Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў Беларусі было праверана 486 розных аб'ектаў, у дзейнасці якіх выяўлена 467 парушэнняў падатковага заканадаўства. Па выніках знойдзеных парушэнняў суб'ектам гаспадарання і фізічным асобам трэба ўнесці ў бюджэт дадаткова 224,5 мільярда рублёў.

Так, супрацоўнікамі Віцебскага міжраённага аддзела фінансавых расследаванняў была ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да службовых асоб ТАА "Транзіт-плюс". Ім інкрымінуецца тое, што на працягу двух месяцаў заніжалася выручка фірмы ад рэалізацыі будаўнічых матэрыялаў і прамысловых тавараў. З-за нявыплаты падаткаў дзяржаве нанесены страты на больш чым 700 мільёнаў рублёў.

**Сяргей МАВАЛІН, БелаПАН.**

## Минская городская организация ОГП поддерживает Михаила Чигиря

Руководствуясь решением IV съезда ОГП, в соответствии с которым Объединенная гражданская партия "рекомендует региональным организациям ОГП поддержать демократических кандидатов" на президентских выборах 16 мая 1999 года. Минская городская организация ОГП приняла решение о поддержке Михаила Николаевича Чигиря. Это решение было поддержано всеми районными организациями г.Минска, и уже на следующий день после окончания съезда Минская городская организация ОГП передала кандидату списки около 300 членов Минской городской организации ОГП, изъявивших желание войти в инициативную группу М.Н.Чигиря.

**Е.ЛОБАНОВИЧ, заместитель председателя Минской городской организации ОГП.**

Пр. Кузьмы, Льва.
К. Кунягунды, Марыны.

4 сакавіка — 80 гадоў з дня нараджэння М. Р. Лупсякова (1919—1972), беларускага пісьменніка.

80 гадоў з дня нараджэння (1919) М. І. Татура, беларускага перакладчыка.

65 гадоў з дня нараджэння (1934) Г. С. Талкачовай, беларускай актрысы.

САКАВІК

3

'99 СЕРАДА

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 6.55 | Поўня |
| Захад 17.51 | 2 сакавіка |
| Даўж. дня 10.56 | Захад 8.31 |
| | Усход 20.19 |

## На Палессі рыхтуюцца да паводкі

Ва ўсіх буйных палескіх рэках пачаў павышацца ўзровень вады. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў штабе грамадзянскай абароны Брэсцкай вобласці, за апошнія суткі лютага на 6 сантыметраў паднялася вада ў Ясельдзе, на 5 — у Піне, на некалькі сантыметраў — у Гарыні і Прыпяці.

Калі цёплае надвор'е ў бліжэйшыя дні захаваецца, то палескія рэгіёны могуць ушчыльную наблізіцца да паводкавай сітуацыі. Паводле прагнозаў спецыялістаў, веснавая паводка сёлета абяцае быць даволі бурнай, таму ва ўсіх раёнах вобласці, дзе магчыма затапленне, прымаюцца розныя кантрольныя меры. Прайшлі пасяджэнні раённных камісій па надзвычайных сітуацыях, на якіх вызначаны комплекс канкрэтных мерапрыемстваў па адводу вады і папярэджанні вынікаў паводкі.

Напрыклад, у Лунінецкім раёне на ўсіх вадаёмах вырашылі арганізаваць пастаяннае дзяжурства. У мясцовых будаўнічых і меліярацыйных арганізацыях створаны тры механізаваныя атрады, якім перададзена магутная тэхніка на выпадак размыву і пашкоджання дамб. Для ўмацавання і падсыпкі апошніх цяпер ствараецца запас неабходных матэрыялаў. Вызначаны ў раёне і вёскі, дзе ёсць найбольшая пагроза падтаплення і якія, магчыма, будуць адрэзаны вадой ад цэнтра. У магазіны гэтых населеных пунктаў завозіцца дадатковая колькасць прадуктаў і тавараў першай неабходнасці. Такія папераджальныя меры прымаюцца ў гэтыя дні таксама ў Столінскім, Пінскім, Ганцавіцкім і некаторых іншых раёнах.

Дарэчы, для каардынацыі ўсіх дзеянняў па падрыхтоўцы да веснавой паводкі на Брэстчыне створана спецыяльная абласная камісія на чале з намеснікам старшыні аблвыканкама Канстанцінам Пячко.

**Іван КУКСА.**

**Надвор'е**

3 і 4 сакавіка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 3-га ўначы — па паўночным усходзе, удзень — у паўднёва-заходніх раёнах ападкі, пераважна дождж. Вецер паўднёва-заходні, паўднёвы, 4—9 м/с. Тэмпература паветра 3-га ўначы — -1...-6, пры праясненнях да -11, удзень каля нуля; 4-га ўначы — -3...+2, удзень — +1...+6, па поўдні да +9.

Спорт

*Лыжный спорт*

## Прогресс Елены Синькевич

В австрийском Рамзау завершился чемпионат мира по лыжному спорту. Отрадно, что под его занавес пришла радость и на белорусскую улицу. В марафонской 30-километровой гонке наша Елена Синькевич сотворила маленькую сенсацию, заняв высокое шестое место, что, к слову, в истории суверенных лыж является безусловным успехом. Отметим, что еще год назад в Нагано Елена удивила всех. Тогда на этой же дистанции она финишировала с 12-м результатом. В Австрии Синькевич преодолела трассу за 1 час 31 мин 48,2 сек. Браво! Глядишь, и до пьедестала рукой подать, чего мы ей искренне и желаем. А победила здесь, к слову, трехкратная олимпийская чемпионка Игр-98 россиянка Лариса Лазутина. К "золоту" в эстафете она на этом чемпионате добавила и победу в индивидуальной гонке.

У мужчин триумфально выступил в Рамзау финский лыжник Мика Мюллюля, завоевавший сразу три высших награды. В заключительной гонке на 50 км ему также не было равных. "Серебро" неожиданно для многих досталось эстонцу Андреасу Вирпале, третье место занял австриец Михаил Ботвинов. В неофициальном командном зачете первое место разделили между собой сборные Норвегии и Финляндии, на счету которых по четыре золотых медали.

*Баскетбол*

## Опустились в квалификацию

Неудачно завершили свое выступление в отборочном турнире чемпионата Европы-99 баскетболисты сборной Беларуси. В заключительном матче наша команда встречалась в Киеве с украинской сборной. Мало кто верил, что белорусам удастся не только отыграть 31 очко, проигранное дома в первом круге, но и вообще победить. Прогнозы, увы, подтвердились. Подопечные Анатолия Якубенко уступили со счетом 67:79. Еще два матча группы "С" завершились так: Дания — Испания — 63:80, Израиль — Англия — 79:76. Итоговое положение команд здесь таково: Испания — 20 очков, Израиль — 17, Украина — 15, Англия — 14, Беларусь — 13, Дания — 12. Таким образом, заняв в подгруппе пятое место, нашей команде в следующем отборочном цикле первенства мира придется начинать с квалификационной стадии.

*Мини-футбол*

## России в "мини" равных нет

Победителем первого официального чемпионата Европы по мини-футболу, проходившего в испанской Гранаде, стала сборная России. В финале российская команда, составленная в основном из игроков сильнейшего в мире клуба — московской "Дины", встречалась с хозяевами соревнований. Основное время матча завершилось вничью 3:3, не выявили победителя и два дополнительных овертайма. В серии же послематчевых пенальти удачливее оказались россияне — 4:2. Примечательно, что их коллегам из большого футбола о подобных успехах остается только мечтать.

**Дмитрий ЕРМАК.**

Крымінал

## Бандыт застрэліў міліцыянера

У Лідзе пры выкананні службовых абавязкаў быў забіты 30-гадовы малодшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку старшы сяржант мясцовага аддзела міліцыі. Трагедыя здарылася ноччу, калі ён дзяжурыў ля казіно. Міліцыянера застрэліў мясцовы крымінальны аўтарытэт. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, падставай для расправы паслужыла тое, што старшы сяржант выклікаў патрульны аўтамабіль, на якім быў дастаўлены ў медвыцвярэзнік сябар злачынцы.

Забойца затрыманы. У яго канфіскаваны рэвальвер сістэмы "Наган" 1926 года выпуску з шасцю патронамі. Узбуджана крымінальная справа, праводзіцца далейшае расследаванне.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**
*г.Ліда.*

## Пастка для прастакоў

Не пераволіся яшчэ ў Бабруйску залішне даверлівыя людзі. Вось такіх прастакоў і абводзіў вакол пальца жыхар гэтага горада нехта Г. Прадстаўляючыся супрацоўнікам фірмы "Рэно" ў Славакіі, ён уваходзіў да людзей у давер, абяцаў больш танна набыць машыну замежнай вытворчасці, браў грошы і, як кажуць, толькі яго і бачылі. Быў яшчэ адзін варыянт такога падману — пошук "кампаньёнаў" для рэалізацыі выгаднага камерцыйнага праекта. Для гэтага, вядома, яму быў патрэбен пачатковы капітал, які складаўся з чужой валюты і нават залатых вырабаў.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Ленінскім РАУС Бабруйска, на "вуду" гэтага махляра "клюнулі" 12 бабруйчан, якія аддалі яму ўвогуле некалькі мільярдаў беларускіх рублёў. Прычым, лічаць у міліцыі, аб'явіліся не ўсе пацярпелыя. Сам жа "дабрадзей-камерсант" знік і цяпер знаходзіцца ў вышуку.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**
*г.Бабруйск.*

## Зноў паявіўся школьны "мінёр"

Ананімны званок аб чарговым замініраванні паступіў вечарам у дзяжурную часць брэсцкай міліцыі. Той, хто званіў, паведаміў, што ў сярэдняй школе №9 закладзена выбуховае ўстройства. Заняткі ў школе да гэтага часу практычна ўжо закончыліся, таму аператыўнікам, сапёрам і прадстаўнікам штаба грамадзянскай абароны, якія прыбылі на месца, не трэба было праводзіць эвакуацыю школьнікаў і выкладчыкаў.

Сігнал, як гэта і бывае часцей за ўсё ў такіх выпадках, быў беспадстаўны. Ніякага выбуховага ўстройства не знайшлі. Супрацоўнікі міліцыі цяпер шукаюць "жартаўніка". Пакуль вядома, што гэта падлетак. Але калі яго ўсё ж удасца знайсці, то бацькі за такі ганебны ўчынак сына вымушаны будуць раскашэліцца.

**Іван КУКСА.**
*Брэст.*



Из первых уст

# Выбор серьезного человека

## Михаил Чигирь отвечает на вопросы "Народной воли"

**— Многие считают затею с выборами 16 мая чем-то несерьезным. И вдруг Вы, человек, без сомнения, серьезный, решаете участвовать в этой кампании?**

— А что, серьезные люди хотят оставить в наследство то, что мы имеем сегодня? Находящуюся в изоляции республику с таким уровнем жизни, когда не знаешь за чем в магазин бежать: или за яйцами, которые вот-вот опять исчезнут, или за хлебом, которого завтра может не стать... Ситуация будет постоянно ухудшаться. Сегодня нужно на закупку зерна для выпечки хлеба 150 миллионов долларов, надо провести и посевную. Ни на то, ни на другое денег нет. Начнутся, посмотрите, перебои с хлебом, — чего нам еще ждать?

Поэтому я бы таких людей, которые хотят остаться в стороне от общенародного бедствия, серьезными не назвал бы. Не понимаю расхожую фразу — пока Лукашенко у власти, нечего и думать об улучшении жизни. Раз человек, возглавляющий страну, виноват в страданиях миллионов, то можно же законным путем найти ему замену? Это же не Северная Корея или Ирак, где никаких выборов быть не может.

Многие не обращают внимания на такой момент. Когда в 1996 году проводился референдум, каждый "вертикальщик", каждый член избирательной комиссии знал: в любом случае Лукашенко еще на три года сохраняет за собой президентский пост. При этом думали: когда лягут результаты голосования на стол, он может вызвать и учинить спрос: "Чем ты занимался, почему у тебя такая статистика плохая?"

Сейчас же ситуация иная. Законный срок властвования Лукашенко заканчивается и от того, кого народ выберет на эту самую высокую должность, во многом будет зависеть судьба страны, судьба каждого человека.

Поэтому нормальный здравомыслящий человек, находящийся сегодня в "вертикали", первым делом займет нейтральную позицию: "Я в это вмешиваться не буду, и какие-то там команды давать не стану, — ведь неизвестно, кто придет и неизвестно, за что будет спрашивать". Хотя в душе он знает, кого нужно поддерживать. Кого зал днями поддержал, когда Лукашенко начал: Чигирь такой-сякой, "пчаляр", и что-то там еще наворовал? Что, не видно было по залу? Заметили, как "вождь" стал мгновенно ловить настроение аудитории? Бросил информацию в зал и ждет: какая последует реакция? Если бы шумок поддерживающий пошел, он стал бы нагнетать страсти-мордасти. А тут — гробовое молчание. Да и могла ли реакция быть иной, ведь большинство из тех, кто сидел в зале, меня хорошо знают. Не буду хвастаться, но скажу: дай Бог, чтобы в нашей Беларуси было побольше таких "пчаляроў". Каждый, кто живет в деревне, знает: далеко не все могут взяться за это очень тонкое и мастеровое дело. В нашей семье отношение к труду всегда было главным мерилом человека.

Я, честно, не понимаю тех людей, которые бахвальствуют: мол, я честный, у меня ни кола, ни двора, в деревне — совхозный дом, в столице — государственное жилище. Это, я считаю, психология иждивенца, люмпена. Скажите, чем плохо, если у нас побольше семей будут иметь свое добротное жилье. После войны вдовы с детьми на руках старались возвести свои углы, а кое-кто через пятьдесят с лишним лет старается уколоть того, кто построил прекрасный дом. Да я бы стыдился людей, если бы за всю свою жизнь вместе со всем трудолюбивым семейством не возвел нормальное современное жилище.

Замечу: я не из тех, кто считает: все должны жить одинаково бедно. Мое жизненное кредо — дать возможность каждому человеку иметь то, что он может иметь в силу своих способностей. Побольше заботы со стороны государства должно быть об инвалидах, престарелых, других незащищенных слоях населения.

**— И все же, Михаил Николаевич, Лукашенко на что-то надеется...**

— Единственное, что может спасти его в этой ситуации, это какие-то резкие силовые действия. Но наступит июль 1999 года, истекут его полномочия, и как в такой ситуации поведет себя та же Германия? Вспомнят и то, что Лукашенко не пошел на выборы, и то, что предпринял (если это случится) репрессивные меры... Значит, весь дипкорпус, который направлен для работы в Германию с ведома уже нелегитимного президента, должен будет покинуть страну. А дальше — больше! Поэтому есть нормальный выход для президента — пойти на выборы, проверить, как его любит электорат сегодня.

Если Лукашенко не пойдет на выборы, то возникнет не только вопрос о его легитимности, но и об ответственности. Потребуется очень мало времени, чтобы раскрыть тайный механизм проведения референдума 1996 года. Правильно немецкий журналист задал вопрос: как так получилось, что, по статистике, люди весь день равномерно шли голосовать, а после шести вечера, когда стемнело, на улицах не видно было ни одного человека, народ якобы валом повалил на референдум? Чтобы ответить на него, больших трудностей не представляется. Это же элементарно делается: каждого члена комиссии вызвать, объяснить, что есть уголовное дело, и он расскажет, как проходил референдум. Зачем ему держаться за эту фальшивку? Не держись за фальшивку, не будет никакой ответственности.

Меня только удивляет, как А.Лукашенко предвидел в 1996 году, что к 1999-у такая трудная ситуация сложится. Ведь тогда ему можно было и не нарушать так открыто законы и Конституцию, благодаря демагогии и популизму была немалая поддержка почти во всех слоях населения. Когда я подал в отставку в знак протеста против проведения референдума 1996 года, Лукашенко меня спрашивает: "Так что, вы пойдете на улицу?" А тогда, помните, днем и ночью люди стояли на площади. Я говорю: "Нет, я уезжаю в деревню. Никаких крайних действий не предпринимаю". Потому что я ясно понимал: в то время он имел поддержку большинства масс. Еще была нормальная зарплата, выдавалась более-менее нормальная пенсия. Найти заработок в 100 долларов в Минске не было проблем. На любое предприятие пойди, если ты специалист, никто меньше 100 долларов не платил.

Я встречался тогда со многими людьми, они говорили: "Помогите Александру Григорьевичу". "А в чём помочь?" "Ну вот он так старается, вы ему помогайте". А сейчас совсем другая ситуация. Он всех разогнал, взял ответственность на себя, а итоги правления известны. Сегодня даже среди пенсионеров мало осталось тех, кто верит, что этот человек на своем месте.

**— То есть вы все же рассчитываете, что Лукашенко пойдет на объявление своих выборов?**

— Самым разумным вариантом для него было бы вступление в переговоры с Верховным Советом 13-го созыва. Как еще выйти из этой тупиковой ситуации? Ведь вся цивилизованная Европа поддерживает Верховный Совет 13-го созыва. При этом Европа в отношении Беларуси каких-то недоброжелательных действий не предпринимала. На сегодняшний день Лукашенко для Европы легитимный президент, он избран народом и любишь или не любишь, но с этим нужно считаться. А что произойдет, когда срок истечет? А если он еще предпримет попытку физически воспрепятствовать проведению выборов?

**— Михаил Николаевич, а вы ничего не слышали о том, что уже была попытка Лукашенко пойти на силовой вариант в отношении организаторов выборов, но силовики отказались применять репрессии?**

— Да, у меня есть такая информация, причем из нескольких источников. Силовики сказали, что репрессивный вариант в такой ситуации исключен, — слишком далеко зашли. Ведь что значит силовой вариант? Все же понимают, что когда-то придется отвечать. Тот, кто исполняет, просит, чтобы ему дали письменное указание. Тот, кто подписывает, понимает, к чему это может привести. А силовых действий напредпринимали уже достаточно. Какая стыдоба, что за решеткой вот уже больше года сидит дважды Герой Социалистического Труда, руководитель известнейшего колхоза "Рассвет" Василий Константинович Старовойтов. Человеку под семьдесят пять, за всю жизнь ни разу не изменил деревне, вывел одно хозяйство в передовое, другое, а ему: "Ты — вор..." Да этому человеку надо в пояс поклониться, а за решетку посадить всех тех, кто напринимал таких законов, которые не позволяют предприимчивым хозяевам действовать в интересах тех же колхозов, совхозов, всего общества, государства. А вообще всем известно, за что кинули за решетку Старовойтова: он не стал служить нынешнему режиму. Как, впрочем, и Леонов, и Климов, и Кудинов, и многие-многие другие.

*(Окончание на 2-й стр.)*

Афіцыйна

## Савет міністраў краіны зацвердзіў новы парадак закупу жывёлы і птушкі і паставак мяса для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб

Савет міністраў Беларусі зацвердзіў новы парадак закупу жывёлы і птушкі і паставак мяса і мясапрадуктаў для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб і ў гандлёвую сетку.

У адпаведнасці з прынятым дакументам, аб'ёмы паставак у гандлёвую сетку і прадпрыемствам грамадскага харчавання мяса і мясапрадуктаў звыш за аб'ёмы, прадугледжаныя дзяржпатрэбамі, будуць штогод фарміравацца Міністэрствам эканомікі рэспублікі. Гэтыя аб'ёмы вызначаюцца на падставе прапаноў аблвыканкамаў, Мінгандлю і Белкаапсаюза, што зыходзяць з балансаў вытворчасці і ўжывання прадукцыі ў рэспубліцы і зацвярджаюцца на наступны год да 1 снежня папярэдняга года.

Пасля зацвярджэння аб'ёмаў паставак Мінэканомікі на працягу трох дзён даводзіць іх да аблвыканкамаў, Мінгарвыканкама і Белкаапсаюза. У выпадку адмовы гандлёвых прадпрыемстваў ад атрымання мяса і мясапрадуктаў у межах выдзеленых ім аб'ёмаў аблвыканкамы, Мінгарвыканкам і Белкаапсаюз самастойна ўсталёўваюць парадак рэалізацыі прадукцыі. У далейшым гэтыя аб'ёмы папаўненню не падлягаюць.

За неабгрунтаваную адмову або ўхіленне ад заключэння дагавораў на пастаўку мяса для рэспубліканскіх дзяржпатрэб, за недапастаўку іх па дагаворах суб'екты гаспадарання будуць несці адказнасць згодна з заканадаўствам Беларусі.

**Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.**

Кто — кого?

## Зарегистрированы первые инициативные группы по выдвижению кандидатов в президенты

*Статья 4 действующего Закона Республики Беларусь "О выборах Президента Республики Беларусь" гласит: "Деятельность комиссий по выборам президента Республики Беларусь, государственных и общественных органов, участвующих в подготовке и проведении выборов президента Республики Беларусь, осуществляется открыто и гласно".*

В соответствии со статьей 24 указанного закона Центральная комиссия по выборам президента Республики Беларусь, сформированная, как все знают, депутатами Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, зарегистрировала 1 марта 1999 года первые две инициативные группы по выдвижению кандидатов в президенты Республики Беларусь.

Руководитель инициативной группы по выдвижению кандидатом в президенты М.Чигиря — Василий Шлындиков, состав группы — 800 человек;

Руководитель инициативной группы по выдвижению кандидатом в президенты З.Позняка — Сергей Попков, состав группы — 500 человек.

Это, как говорится, первые ласточки. Заявки на регистрацию и списки членов инициативных групп будут приниматься до 11 марта 1999 года. Поговаривают, что Центральная комиссия ждет заявки и от нынешнего президента. Александру Лукашенко инициативную группу, в принципе, можно и не создавать — достаточно 70 подписей депутатов, в том числе и палатников. Возражений со стороны членов комиссии, по их заверению, не будет.

Заседание Центральной комиссии по регистрации инициативных групп проводилось в... салоне автобуса. Ведь на предыдущее ее заседание, которое было в кафе, ворвались омоновцы и членов комиссии арестовали. На этот раз штурмовать автобус стражи порядка не стали.

Заседание Центральной комиссии по выборам президента проводилось без ее председателя, которого, выбив стекла автомашины, схватили как уголовного преступника и тут же осудили в закрытом (чрезвычайном) суде на 10 суток ареста.

Остальные члены комиссии после утверждения инициативных групп прибыли в суд, который вынес следующие приговоры:

— А.Гуриновичу, Б.Гюнтеру, С.Ободовскому, — по пять суток ареста;

— А.Диргинчусу, А.Коктышу, Н.Похабову, Г.Самойленко — штраф по 30 миллионов рублей;

— Л.Закурдаеву, В.Сидоренко — штраф по 20 миллионов рублей;

— И.Наумчику — штраф в 15 миллионов рублей;

— В.Кленовой, В.Лагун, Л.Сазановец — предупреждение.

Итого, административные взыскания наложены на 14 из 19 членов Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь. Хотя Виктор Гончар и за решеткой, комиссия, судя по всему, не утратила дееспособности.

**Валерий ЩУКИН.**

Крык душы

## А цяпер — жабрачка

Я — адзінокая пенсіянерка, ветэран працы, інвалід III групы. А зараз — жабрачка.

Хачу спытаць кіраўнікоў нашай дзяржавы: што вы робіце? За што мучыце народ? Ваша "дзейнасць" проста не ўкладваецца ў галаве. Няўжо вам не сорамна гвалтаваць нашу маці-Беларусь, нішчыць яе гісторыю, культуру, мову, пасяваючы яшчэ, нібы між іншым, штурхаць людзей у бездань галечы і безнадзейнасці?

Калі А.Лукашэнка так ірвецца ў прымакі да суседняй Расіі — то хай сабе ідзе, а нас пакіне ў спакоі. Дык не — ён яшчэ хоча прыхапіць пад пахай усю дзяржаву: без яе яго не возьмуць, навошта ён тады патрэбен...

Ніхто не супраць добрасуседскіх адносін з Расіяй, узаемавыгадных эканамічных стасункаў. Але пры гэтым лепш жыць у сваім уласным доме, а не ў кагосьці збоку прыпёку, самім наводзіць лад на ўласнай зямлі.

У нас — бядота, у Расіі — бядота, што ж будзе, калі іх скласці разам? Мне ўжо больш за 70, нажылася ўжо ў Савецкім Саюзе разам з Расіяй. Усё жыццё працавала, нічога не маючы. А цяпер і наогул не ведаю як быць. І пры гэтай уладзе лепшага не дачакаешся.

Давайце, людцы добрыя, не маўчаць, выказваць голасна свае думкі і трывогі, не пагаджацца з гвалтам, што чыніцца над нашым народам. Каб кожны, нават сённяшні жабрак, мог сказаць: "Маю права быць чалавекам!".

Жыве Беларусь — наш Дом!

**Таццяна Іванаўна ГАНЧАРОВА.**
*Мінск.*

Абсурд

## "Заткнись, дед, со своей мовай"...

Уключаю тэлевізар — малады хлопец па БТ талдычыць пра аб'яднанне Беларусі і Расіі — пры захаванні, нібыта, нацыянальнага суверэнітэту краіны.

Нічога не разумею: пра якое захаванне суверэнітэту ідзе размова, калі ён нішчыцца на вачах? Бо наш суверэнітэт (як, дарэчы, і ў любой іншай дзяржаве) — гэта наша мова, культура, уласная самастойная палітыка.

У рэальнасці ж адбываецца жахлівае: беларуская мова паўсюдна выціскаецца рускай і паўсюдна, ледзь не ў любой пачутай размове ўладарыць шматпавярховы расійскі мат. Нічога сабе "інтэграцыя", духоўнае ўзаемаўзбагачэнне! Чаму ж мы не ўзбагачаемся лепшым, што ёсць у суседняга народа, а пераймаем непатрэбшчыну, безгаспадарчасць, дурноту? Чаму мірымся з тым, што нас абражаюць, зневажаюць ва ўласнай хаце толькі за тое, што мы — беларусы?

Звяртаюся ў краме да прадаўшчыцы, а ў адказ: "Говорите нормально, вы что, не знаете русского языка?" Падышоў да міліцыянта з нейкім пытаннем, а ён грэбліва: "Заткнись, дед, со своей белорусской мовай". Мог бы яшчэ і дубінкай стукнуць, і хто ж цябе ў такой дзяржаве абароніць?

...А гэты дзяцюк з тэлеэкрана ўсё далдоніць і далдоніць пра захаванне суверэнітэту. Аж вушы вянуць ад гэтай нахабнай хлусні.

**Мікола ЛУКОМСКІ,**
**удзельнік Айчыннай вайны,**
**ветэран Узброеных Сіл.**
*Мінск.*

Чулі?

## Крэдыт у "Беларусбанку" можа ўзяць кожны, але на пэўных умовах

Адкрытае акцыянернае таварыства "Беларусбанк" з'яўляецца асноўнай фінансавай установай краіны, якая актыўна працуе з насельніцтвам па яго крэдытаванні. На сённяшні дзень банк выдае грамадзянам больш за 18 розных відаў крэдытаў за кошт уласных рэсурсаў, а таксама льготныя крэдыты ў рамках дзяржаўных праграм і ў адпаведнасці з Указам прэзідэнта Беларусі. Аб гэтым паведаміла карэспандэнту БелТА дырэктар дэпартамента крэдытавання насельніцтва ААТ "Беларусбанка" Тамара Яхімовіч.

Паводле даных спецыяліста, за кошт уласных сродкаў банка на жыллёвае будаўніцтва ўжо атрымалі крэдыты каля 170 тысяч сем'яў у памеры 4 трыльёнаў рублёў. 25 трыльёнаў рублёў выдадзена па лініі льготнага крэдытавання будаўніцтва жылля. ААТ "Беларусбанк" фінансавала будаўніцтва 1400 дамоў, з якіх каля тысячы ўжо ўведзены ў строй. Ільготныя крэдыты атрымалі 85 тысяч сем'яў і грамадзян рэспублікі.

На якіх жа прынцыпах выдаюцца гэтыя грашовыя рэсурсы? Што датычыць ільготных крэдытаў, растлумачыла Тамара Яхімовіч, то ўмовы і парадак іх выдачы рэгламентуюцца нарматыўнымі дакументамі ўрада і ўказамі прэзідэнта. Ільготныя крэдыты выдаюцца пад пяць працэнтаў гадавых з пагашэннем да 40 гадоў. Іх могуць атрымаць грамадзяне, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і знаходзяцца ў выканкамах у чарзе на атрыманне жылля. Яны павінны мець даходы, якія на сёння не перавышаюць двух мінімальных спажывецкіх бюджэтаў, а гэта складае амаль што 14 мільёнаў рублёў на члена сям'і. Спісы на выдачу такіх крэдытаў падаюцца ў банк выканкамамі ў адпаведнасці з чарговасцю.

Калі гаварыць аб крэдытах, якія ААТ "Беларусбанк" выдае за кошт уласных рэсурсаў, то іх умовы вызначаюцца ў адпаведнасці з сацыяльнай накіраванасцю. Напрыклад, удакладніла дырэктар дэпартамента, крэдыты на набыццё аўтамабіля выдаюцца пад 60 працэнтаў гадавых, на будаўніцтва садовых домікаў — пад 45 працэнтаў, на ўрачыстыя мерапрыемствы — аказваецца, ёсць і такі крэдыт — пад 40 працэнтаў. А вось працэнтная стаўка крэдыту на лячэнне дзяцей устаноўлена ў памеры 25 працэнтаў гадавых. "Пры гэтым, — сказала Тамара Яхімовіч, — абмежаванне ўзросту дакументальна не агаворана. Аднак пры выдзяленні крэдыту ўлічваецца рэальная магчымасць яго вяртання. Крэдыт жа — гэта не сацыяльная дапамога, а грошы, якія даюцца банкам у доўг на пэўны тэрмін і пад пэўныя працэнты. Акрамя таго, для малазабяспечаных грамадзян уведзены і такі нарматыў, як паручыцельства. Яго могуць даць члены сям'і, сябры, знаёмыя, якія салідарна нясуць адказнасць за вяртанне прадастаўленых сродкаў".

Усе крэдыты маюць мэтавае прызначэнне і выдаюцца на падставе прадстаўленых дакументаў шляхам безнаяўных пералічэнняў, паведаміла дырэктар дэпартамента. Выключэннем з'яўляюцца крэдыты на неадкладныя спажывецкія патрэбы, працэнтныя стаўкі на якія складаюць ад 36 да 55 працэнтаў гадавых.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

## Радзіму прадаюць за газ і нафту

Як ужо паведамлялася ў незалежным друку, 19 лютага адбылася абласная нарада гаспадарчага актыву Гродзенскай вобласці. З дакладам выступіў і вёў нараду А.І.Дубко. І даклад, і выступленні адпавядалі стылю савецкіх часоў, пахлі нафталінам. У зале было шумна, мала хто слухаў. Адзначаліся "дасягненні" і "некаторыя недахопы". Прыводзіліся лічбы, арыфметычныя параўнанні, што было і чаго дасягнулі. Эканомікай нават не пахла. Аб рэформах — ані слова. Адзіны шлях росту эканомікі яны бачаць у перастаноўцы кадраў, умацаванні дысцыпліны і саюзе з Расіяй.

Ды і аб якіх рэформах можа ісці гаворка, калі ўжо тры гады пустуе пасада старшыні камітэта па эканоміцы і рыначных адносінах аблвыканкама.

Многа гаварылася аб выбарах у мясцовыя Саветы. Даваліся парады, як загнаць людзей на выбарчыя ўчасткі. Пад пагрозай зняцця з пасады кіраўнікі розных рангаў павінны забяспечыць яўку сваіх людзей на выбарчыя ўчасткі.

Гаварылася, што наперадзе нас чакаюць цяжкія выпрабаванні ў развіцці народнай гаспадаркі. Газ і нафта даражэюць з кожным днём. Гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот" пад пагрозай банкруцтва. Выратаванне яны чакаюць ад аб'яднання Беларусі з Расіяй.

Аб гэтым яскрава сведчыць адказ А.І.Дубко на пытанне: "Якая Ваша думка накont намечанага аб'яднання Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву?" Адказ быў катэгарычны: "Я падтрымліваю, бо інакш на гэтай пасадзе не працаваў бы. Для нас гэта спасенне, бо самі мы не выжывем. Дай Бог, каб аб'яднанне адбылося хутчэй".

Дарэчы, у гэтай зале не прагучала ніводнага беларускага слова.

Вось і прыйшлі да фіналу. А ён горкі і плачэўны.

**М.ДАБРАДЗЕЙ.**
*Гродна.*

Из первых уст

# Выбор серьезного человека

## Михаил Чигирь отвечает на вопросы "Народной воли"

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**— Готовы ли вы сами к тому, что ваши действия, с точки зрения Лукашенко, могут быть оценены как "подрыв основ конституционного строя, попытка захвата власти неконституционным путем", что предполагает уголовное преследование?**

— Как говорится, от сумы и от тюрьмы не зарекайся. Но что значит "неконституционным путем"? Что, мы формируем партизанские отряды для захвата вооруженным путем резиденции президента? Нет! Мы хотим спросить у людей: "За кого вы сегодня?" Разве это можно назвать неконституционным захватом власти?

**— Власти, скорее всего, так считают...**

— Но есть же международные стандарты и традиции. Что от того, что он нас террористами назовет? Вы же видите, что этот конек — "держи вора"- на котором он долгое время продержался, уже не срабатывает. Потому что слишком много "воров" арестовано и никто не может сказать, где же они у кого что уворовали. Действительно, для чего, например, был нужен суд над Старовойтовым? Каждый председатель колхоза смотрит и думает: если дважды Герой Социалистического Труда, имеющий прекрасные экономические показатели, сидит за решеткой, то что про меня говорить?

**— И что этим председателям делать?**

— Надо, чтобы созрел повод для каких-то действий. Без повода, что ему делать? Заявить, что колхоз "Красный Октябрь" выходит из состава Беларуси или подчиняться будет не Лукашенко, а Позняку, который, говорят, вот-вот вернется в Беларусь? Он же этого сделать не сможет. А выборы — это серьезный повод. Я думаю, что не удастся найти ни одного председателя колхоза, который бы опустил бюллетень в урну в поддержку Лукашенко. Ведь этот человек расправляется с людьми без суда и следствия. Еще суда не было, а уже десятки раз повторялось, что Старовойтов — вор, что Леонов — вор, что Винникова вор. Помните: "Пусть Винникова отдаст то, что она накрала, тогда я ее отпущу". Он может сказать, что Чигирь наворовал. И уже сказал как будто бы. Ко мне в Москву в июле приезжал следователь по делу Винниковой и по сути заданных им вопросов я понял, что у них вообще ничего на нее нет.

Каждый исполнитель таких желаний президента должен понимать, что в самом худшем случае через два года все это поменяется и придется отвечать за свои действия. Если отсидит Чигирь, а потом выйдет, он же сразу поставит вопрос: "Кто меня посадил и за что?" Это же не сталинские времена, когда человека увозили и никто не знал, за что и что с ним дальше случилось — на Колыме замерз или в подвале застрелили. Сейчас все прозрачно, все известно: на основании чего, кто подписал и что произошло. Неужели они думают, что у меня нет тех распоряжений прокуратуры, по которым у меня в квартире обыски проводились, когда я премьером был.

**— Каким образом Вы видите организационную сторону процесса голосования, как рассчитываете обеспечить массовость?**

— Может быть, и несколько преждевременно об этом говорить, но мы понимаем, что за один день не соберем нужное количество голосов. Выборы будут продолжаться не один день. Опыт такой есть, этому нас научил Лукашенко. Даже если кто-то и побоится "засвечиваться", то члены избирательных комиссий пойдут с урнами по квартирам. И что самое обнадеживающее, есть очень много людей, готовых работать на свой страх и риск без какого-либо материального возмещения.

Конечно, мы понимаем, что немалая часть людей запугана, будет бояться голосовать. Но, слушайте, есть же предел всему! 20 долларов — месячная зарплата! Да столько в нормальной стране человек зарабатывает за час. Так же долго продолжаться не может. Вы посмотрите, как рассуждали пенсионеры раньше и как сейчас. Поэтому самое главное — создать условия, чтобы человек оказался возле урны. У Лукашенко нет шансов выиграть выборы, если он решит в них участвовать. И он об этом знает. У него такие аналитические доклады лежат на столе. Ему специалисты разработали и предложили схему, как можно выиграть выборы в Беларуси, что нужно сделать, чтобы люди поверили... Надо уйти от дипломатической изоляции, восстановить связи с международными финансовыми организациями, нужно возобновить процесс приватизации... Да что тут говорить — нужны конкретные шаги в области экономики. Только тогда у него есть какой-то шанс устраивать голосование.

**— Если выборы 16 мая состоятся и будет избран новый президент, наивно полагать, что Лукашенко передаст ему свои полномочия. Возникнет ситуация двоевластия. Как, на Ваш взгляд, будут дальше развиваться события?**

— Не думайте, что мы готовим только выборы и больше ничего. Ведется большая разъяснительная работа. С людьми в погонах каждый день идут консультации. А что значит сегодня милиционер или военный? На сегодняшний день тот, кто был полковником, стал рядовым по зарплате. Поэтому в душе они, конечно, не довольны. Как народ дисциплинированный, они не могут сейчас публично проявлять свое недовольство. А вот когда будет ситуация двоевластия, когда будет признание нового президента со стороны других государств, мы думаем, что люди перейдут на ту сторону, где демократия, где победа, где есть какой-то просвет к будущему. А что можно ждать от Лукашенко: ситуация все хуже и хуже, а он только о том и думает, как на российский престол взойти.

**— Как может повести себя Россия в ситуации двоевластия?**

— В России есть разные силы, разные мнения и подходы. Пока многие не верят, что результат этой кампании может быть достигнут. Но как только появятся списки избирательных комиссий сверху донизу, тогда они начнут понимать, что это все не вхолостую, что есть реальные люди, готовые работать в комиссиях, ходить с урнами по квартирам и т.д. Другой этап, который станет показателем, что это не шутки, что за дело взялись серьезные люди, — это выдвижение кандидатов в президенты. Когда это произойдет, тогда и будет вырисовываться какое-то более конкретное отношение.

**— На Ваш взгляд, насколько реален вариант ухода Лукашенко от ответственности путем объединения Беларуси с Россией?**

— Это не реально! Это же, извините, не мешок зерна в Москву завезти. Не так, что сегодня сказал, а завтра мы уже проснулись в России. Да и Россия на это никогда не пойдет.

**— Подписана ж декларация — до конца года создать союзное государство.**

— Сколько мы уже этих заявлений слышали! Поехал в Южную Корею, а затем, вернувшись, сказал, что два с половиной миллиарда долларов привез инвестиций. И где они? Он же пошел на выборы с лозунгом "отвести народ от пропасти". Ну и что? Отвел от пропасти? Сейчас экономическая ситуация гораздо сложнее, чем когда Лукашенко брал власть. Когда я стал премьером, я же все видел: не было материальных ресурсов в розничной и оптовой сети, но деньги были и валюта кое-какая осталась после Кебича. А сегодня ситуация гораздо сложнее. Ему же теперь реальную ситуацию докладывают, после того как поменялись люди в аналитическом центре Совета безопасности. Прежние писали, что все хорошо, а потом стало ясно, что не все так гладко, как на бумаге. Никто же не сказал, когда резали последних кур-несушек на мясо, что яиц не будет. А сейчас доведены жесткие указания по заготовке мяса, еще давайте дойных коров порежем. Нормальным путем эти нормативы выполнить невозможно, потому что мяса нет. Можно только за счет молочного поголовья.

**— Как Вы полагаете, много у Вас будет соперников на выборах?**

— Думаю, будет не больше трех кандидатов.

**— Для Вас два — хорошо, а три — плохо, не так ли?**

— Да, потому что второй тур нам будет трудно вытянуть.

**— Вы встречались с Карпенко? О чем-нибудь удалось договориться?**

— Мы консультировались и будем еще встречаться. Я думаю, мы доведем наши переговоры до логического завершения.

**— Как Ваши работодатели отнеслись к тому, что Вы решили заняться политической деятельностью?**

— Сказать откровенно, бизнес есть бизнес и там есть железный закон: или бизнес, или политика.

**— Михаил Николаевич, Вы могли бы обрисовать основные черты программы действий после реального прихода к власти?**

— Первым делом необходимо преодолеть международную изоляцию. История доказала, что невозможно добиться какого-то успеха, находясь в изоляции. Что означает для нас закрытость Европы? Это значит — тормозится научно-технический прогресс, отсутствуют иностранные инвестиции, сдерживается торговля. Второй момент — это нормализация отношений с международными финансовыми институтами. Ясно каждому, что без их помощи, самостоятельно Беларуси придется очень долго выходить из кризисной ситуации. И в-третьих, создание условий для привлечения иностранных инвестиций в Беларусь.

Во внутренней политике необходимо возобновить реформы, которые были начаты в 1994—1996 годах. Ведь тогда шло реформирование. Не коснулось оно сельского хозяйства, но в промышленности был создан целый ряд эффективно работающих коммерческих структур. Все это надо возрождать и восстанавливать, надо смелее идти по пути приватизации. И конечно же, большим тормозом для экономики является государственное регулирование розничных цен. Уже дорегулировались до точки! Прочел в газете рассказ женщины: взяла в колхозе бычка на откорм, год кормила, сдала государству и на вырученные деньги купила не очень плохой утюг. Спрашивается, откуда может быть в государстве мясо?

Мы же уже прошли через это однажды. В 1994 году Лукашенко позвал меня и говорит: "Надо разрабатывать законы о защите потребительского рынка, по которым за провоз колбасы или хлеба в багажнике — конфискация автомобиля. Если этот же человек попадается второй раз, его надо изолировать от общества". Я говорю: "Александр Григорьевич, дайте немного времени и решим мы эти проблемы цивилизованно". И пока он сильно не вмешивался в экономику, мы за два года наполнили магазины, создали колоссальные запасы материальных ресурсов на оптовых базах. Единственное, чем мы не успели заняться со всех сторон, — это сельское хозяйство.

Поэтому социальная база для того, чтобы народ определился, полностью сформирована. Сформирована не оппозицией даже, сформирована Лукашенко. Он говорит, что оппозиция в Беларуси слабая. Да, слабая. Но самым главным оппозиционером в последнее время был Прокопович. Он так "нарулил" в Национальном банке, что подменил все оппозиционные партии, аж весь режим задрожал. Не трогали бы механизм 1996 года и сегодня бы платили среднюю зарплату по 100 долларов. Прокопович же заявил поначалу, как пришел в Нацбанк: "Они таких задач не ставили, как мы!" Вот они свои задачи и поставили, "зайца" добили, валюты нет, властвует "черный рынок"...

Лукашенко должен понять, что он очень серьезно ошибся. А раз ошибся — исправляй! Проведи выборы, проверь себя, измени курс. Ведь если бы не тот дутый референдум, разве б я не работал? В 8 утра как штык был на работе, в 10 вечера, если не в 12, возвращался с работы. Суббота — рабочий день. В воскресенье только позволял себе расслабиться — на пасеку уезжал. Но не ездил в рабочее время в теннис или в хоккей играть.

**— Лукашенко объяснил Ваш приход в политику тем, что у следственных органов якобы что-то есть на Вас, поэтому Чигирь хочет создать видимость, что он за политику пострадает, когда за него возьмутся.**

— Что-то же надо говорить. После этого заявления очередную проверку направили в Агропромбанк. Опять, по третьему кругу, проверяют. Ищут, пусть ищут...

Я одно хочу сказать: придет время и станут известны операции с выходом на ряд банков на Кипре, в Германии, Латвии... И вот тогда станет ясно, кто на самом деле вор и народ будет в шоке.

**— Михаил Николаевич, теперь для Вас обратной дороги нет?**

— Нет, конечно. Я отступать не буду. Меня могут только остановить, но это повлечет катастрофические последствия для власти.

**Беседу вел**
**Игорь СИНЯКЕВИЧ.**

По просьбе читателей мы публикуем координаты штаба поддержки М.Чигиря: **220004, г.Минск, ул.М.Танка (ул.Танковая), д.12, кв.4. Контактный телефон: (8-017) 226-68-10, для минчан — 276-93-52.**

Во даюць!

## Самагонаварэнне фінансуецца... Еўрасаюзам

Самагонаварэнне было забаронена ў Швецыі яшчэ ў 1865 годзе. І толькі ў гэтым годзе закон дазволіў зноў вырабляць самагон на продаж. У пачатку мінулага тыдня на востраве Мёркё ва ўрачыстай абстаноўцы і зусім легальна пачалі варыць самагон. Але не ўсе без разбору, а толькі тыя, хто атрымаў асобы дазвол улад. 45 рэстаранаў у Стакгольмскім архіпелагу ўжо вараць самагон на продаж, і праект гэты фінансуецца ЕС.

Самагонаварэнне мае даўнія традыцыі ў Швецыі, розныя вобласці славяцца сваімі спецыяльнымі гатункамі і смакавымі дабаўкамі. Многімі мясцовымі рэцэптамі карыстаецца і масавая дзяржаўная вытворчасць, прадукцыя якой досыць папулярная ў магазінах па продажы спіртных напіткаў. Але мясцовыя гатункі самагонкі тым і вызначаюцца, што вырабляюцца ў невялікіх колькасцях. А дабаўленне рабіны і лімону, траў і каранёў, ягад і спецый даюць магчымасць практычна кожнаму самагоншчыку вырабляць свой асаблівы гатунак.

Выробленая ў фабрычных умовах самагонка "Рэнат" узначаліла спіс спіртных напіткаў, якім шведы аддаюць перавагу. Нават славутая гарэлка "Абсалют" знаходзіцца толькі на трэцім месцы па продажах.

**Інэса МОІН, БелТА.**
*Стакгольм.*

*Колонна участников антифашистской акции следует по улице Янки Купалы к площади Парижской Коммуны — месту проведения митинга.*
**Фото IREX/ProMedia.**

Творчасць чытачоў

*Уладзімір ПАШУК*

### Жыве Беларусь!

*Мы грамадою прыйдзем да волі,*
*Я грамадою сваёй ганарусь.*
*З ёй адшукаю я шчасце і долю,*
*Волю навекі.*
*Жыве Беларусь!*

*Будзем заўсёды мы вольныя людзі,*
*Наша краіна мірнаю будзе.*
*Кожны народ нас людзьмі назаве.*
*Хай Беларусь наша*
*Вечна жыве!*

*Доўга трывалі мы сорам галечы,*
*Толькі цяпер я бядзе не скарусь:*
*Маем мы гонар свой — чалавечы!*
*І не пакрыўдзім*
*Сваю Беларусь!*

*З кожным народам мы пасябруем,*
*Разам краіну сваю адбудуем*
*Сэрцам я зор і нябёс дакрануся!*
*Ранішняй зоркай*
*Гары, Беларусь!*

Гомель.

Акции

## Можно пострадать и за антифашизм

Днями в Минске прошла антифашистская акция, организаторами которой стали Белорусский Хельсинкский комитет, правозащитный центр "Весна-97" и гражданская инициатива Хартия'97. Примерно две тысячи человек прошли от площади Якуба Коласа до Оперного театра с плакатами "Нет — русскому фашизму в Беларуси!" и "Лукашенко — в отставку!". Кроме заявителей, в акции участвовали Белорусский народный фронт, Объединенная Гражданская партия, представители польской, еврейской и татарской диаспор.

Путь по проспекту Ф.Скорины для участников манифестации оказался довольно проблематичным. Подавая в Мингорисполком заявление о проведении акции, организаторы шествия убедительно просили городскую власть расчистить тротуары проспекта от снега и льда. Однако эту вполне объяснимую просьбу Мингорисполком проигнорировал. И потому протестующим оставалось либо послать далеко впереди себя группу людей с лопатами и ломиками, либо пробираться по заснеженным, нерасчищенным тротуарам в колонне, как говорится, по одному. Поскольку ни первое, ни второе никоим образом осуществиться не могло, митингующие вышли на проезжую часть.

Реакция милиции была мгновенной. Тут же, на месте, заявителям Дмитрию Бондаренко, Алесю Беляцкому и Владимиру Костко вручила повестки с просьбой явиться в РОВД Советского района. Через мегафон постоянно поступали просьбы не мешать движению транспорта, хотя автомобили благополучно объезжали колонну людей, и "пробок" не возникало. На площади Победы у памятника погибшим в Великой Отечественной войне участники акции возложили цветы. Довольно маразматично в этот момент выглядела пожилая женщина, которая умудрялась бросать комья снега с балкона четвертого этажа и кричать на участников антифашистской акции: "Фашисты!".

Но все прошло благополучно: у Оперного театра шествие перешло в митинг. Перед собравшимися выступили представители от каждой участвующей организации. От лица всего украинского народа выразил протест фашизму украинский правозащитник Мурашов, который в эти дни присутствовал в Минске на международной конференции "Судебная защита прав человека". Дмитрий Бондаренко, член оргкомитета Хартии'97, держа повестку в руках, сказал: "Пускай меня посадят, и я скажу своей дочери, что "сидел" за то, что был против фашизма!"

Согласно повестке, организаторов антифашистской акции приглашали в тот же день в РОВД к 15.00. Во избежание ненужных проблем Дмитрий Бондаренко направился в РОВД Советского района в назначенное время. Однако на выходе из офиса Хартии его уже ожидал милицейский "УАЗик", и двое в штатском любезно и настойчиво предложили Бондаренко воспользоваться их машиной. В РОВД Дмитрий Бондаренко три часа "знакомился" с протоколом. Затем его все же отпустили, предварительно назначив встречу в понедельник в суде. Второго заявителя Владимира Костко "нашли" в гостинице "Интурист" на международной конференции. С протоколом он ознакомился прямо на месте. По-видимому, страшась международного скандала, милиция не решилась везти его в РОВД. Алесь Беляцкий на повестку не отреагировал. В результате его буквально приволокли в РОВД из управы БНФ. Крики задержанного журналистам с просьбой позвонить в управу заглушались пинками. Между тем Беляцкого в тот день тоже отпустили. До суда в понедельник.

1 марта обещанный суд над Дмитрием Бондаренко и Владимиром Костко отложили на четвертое марта. Суд над "непокорным" Алесем Беляцким все же состоялся, с присуждением ему десяти суток за нарушение постановления Мингорисполкома.Что ожидает оставшихся двух заявителей? Вряд ли приговор для них будет иным.

**Наталья РАДИНА.**

Нявыдуманыя гісторыі

## Самаходку "запраўлялі"... усёй вёскай

Спякотны ліпень 1944 года. Над вёскай з ранку да вечара гудуць самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах, трымаючы курс на захад — да фронту. Ужо з тыдзень як вызвалены Слуцк, а ў нашу прытуленую да лесу вёсачку на дваццаць двароў яшчэ ніводзін наш баец не заглянуў. А тут нечакана сярод белага дня, паляскаючы гусеніцамі, уязджае самаходная гармата СУ-76 (тады яна мне здавалася танкам). Спынілася пасярод вуліцы. Адкінуўшы з задняга борта брызентавую заслонку, з машыны выскачылі два салдаты і малады лейтэнант, а праз пярэдні люк — вадзіцель, хлапчук у форме, гадоў пятнаццаці. Убачыў мяне — паклікаў: "Эй, кореш, самогонка в деревне найдется? Мы будем платить бензином, на освещение пригодится, надо только, чтобы не вспыхнул, ложку соли предварительно всыпать в лампу". Афіцэр чуў словы вадзіцеля і заківаў галавой у знак згоды.

У адзін момант падлеткі абабеглі ледзь не ўсе хаты і перадалі ўмовы абмену. А паколькі два гады сяляне мелі сваю зямлю (калгасы вясной 1942 года распусцілі), то былі з хлебам і для сябе, і для партызанаў, і немцам па абавязковай квітанцыі ў "нарыхтоўку" адвозілі. Хапала і на добрую жытнюю самагонку — яе гналі ў кожным двары.

І вось да самаходкі сталі падыходзіць жанчыны, дзяды, бо мужчын маладых прызвалі на фронт. За нейкую гадзіну госці напоўнілі моцным пітвом поўную каністру. Бензін давалі з разліку: за паўлітэрку "першаку" — літр, а самагон слабейшага мацунку (яго папярэдне каштавалі на смак) ішоў літр за літр.

Набытага нашай маці бензіну хапіла для асвятлення хаты (амаль тры гады для гэтай мэты выкарыстоўвалі на прыпечку распаленыя смалякі) аж на паўгода. Памятаю яшчэ, што самаходчыкі гаварылі аб хуткай сустрэчы з ворагам — іх полк сваім ходам рухаўся на фронт. Таму да самагону сялянкі дабаўлялі па драбку сала — на закуску.

Пазней, калі я сам стаў салдатам, даводзілася чуць ад бывалых франтавікоў, што тым самаходкам СУ-76 за іх тонкую браню і пажаранебяспечныя бензінавыя рухавікі далі горкую мянушку — "Прощай, Родина": яны загараліся пры першым трапленні снарада, і нярэдка гінуў у агні ўвесь экіпаж...

**Міхась ТЫЧЫНА.**
*г.Слуцк.*

Рэха

## Хай назвы нашых вуліц згадваюць лепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны

Дарагая газета "Народная воля"!

Лічу неабходным узяць удзел у абмеркаванні артыкула Васіля Жуковіча "Якія вуліцы акружаюць нас?". Цалкам згодны з аўтарам. Сапраўды, ці можна надалей захоўваць такія назвы — сімвалы таталітарызму, як Аўрорская, Камуністычная, Сацыялістычная, не кажучы ўжо пра Маркса-Энгельса-Леніна? Не, не і яшчэ раз — не! Гэтым вуліцам, ды і не толькі ім, трэба абавязкова вярнуць або іх першапачатковыя назвы, або назваць іх імёнамі славуцейшых сыноў і дачок Беларусі.

Падтрымліваю прапанову наконт перайменавання праспекта "Праўды" ў **праспект "Народнай волі"**! Гэта — наша з вамі газета. І ў гонар яе можна і нават неабходна назваць адзін з прыгажэйшых праспектаў сталіцы. Цяпер прапановы па іншых згаданых у артыкуле вуліцах. Лічу, варта аднавіць на карце горада назвы **Збораўская** замест Інтэрнацыянальнай, **Койданаўская** замест Рэвалюцыйнай, **Дамініканская** замест Энгельса, **Міхайлаўская** замест Камуністычнай, **Феліцыянаўская** замест Камсамольскай, **Падгорная** замест Маркса, **Цэнтральная плошча** замест Кастрычніцкая плошча, **Ніжне-Ляхаўская** замест вуліцы Кастрычніцкай, **Траецкі пляц** замест плошчы Парыжскай Камуны. Вуліцу Леніна можна б назваць імем **Адама Міцкевіча**, Чырвонаармейскую перайменаваць у вуліцу **Яўгеніі Янішчыц**, Ульянаўскую — у вуліцу **Анатоля Майсені**, Артылерыйскую — у вуліцу **Казіміра Семяновіча**, Гвардзейскую — у вуліцу **Язэпа Драздовіча**, Піянерскую — у вуліцу **Сяргея Пеюна**, Сацыялістычную — у вуліцу **МАЗаўскую** — у гонар першага ў рэспубліцы аўтамабільнага завода, Аўрорскую — у вуліцу **Сяргея Палуяна**, Алтайскую — у вуліцу **Івана Чыгрынава**, Ангарскую — у вуліцу **Стахвана Грабоўскага**, Байкальскую — у вуліцу **Тамаша Зана**, Енісейскую — у вуліцу **Яна Баршчэўскага**, Іркуцкую — у вуліцу **Васіля Вашчылы**, Палярную — у вуліцу **Караля Серакоўскага**, Вялікаморскую — у вуліцу **Макара Краўцова**, Пензенскую — у вуліцу **Наталлі Арсенневай**, Томскую — у вуліцу **Язэпа Гашкевіча**, Тульскую — у вуліцу **Міхася Ткачова**, Хабараўскую — у вуліцу **Сафіі Слуцкай**, Халмагорскую — у вуліцу **Еўдакіі Лось**.

Безумоўна, гэтыя назвы — не канчатковыя... Магчыма, нехта з вас, паважаныя чытачы, знойдзе свае, больш слушныя назвы. Але мяняць назвы трэба абавязкова. Канешне, гэта будзе звязана з пэўнымі выдаткамі. Але чым хутчэй мы раз і назаўсёды пазбавімся ад недарэчных назваў, тым больш наш народ будуць паважаць у свеце. Не вечна ж нам шанаваць Маркса-Леніна, або Суворава ці Калініна і К°.

На гэтым, бадай, і скончу. Шчыра жадаю вам, дарагія сябры, добрага здароўя, цудоўнага настрою, мірнага неба, поспехаў у агульнай працы на карысць Беларусі. Закончыць хацелася б радкамі Ніла Гілевіча:

*Хаджу па вуліцы Нязгары,*
*Што меў і здольнасці, аднак,*
*Пакуль Народ пра шчасце марыў,*
*Ён краў з казны і жыў у смак.*
*А ты, мой продак яснаколы,*
*Чый дар Народу незлічоны —*
*Твайго забытага імя*
*У родным горадзе няма.*

Жыве Незалежная Беларусь! Жыве вечна!

З глыбокай павагай —

**Ваш пастаянны падпісчык і верны сябар Сяргей ГЕРАСІМЧЫК.**
*Мінск.*

